ГРАМАДСКАЕ АБ’ЯДНАННЕ

«ЗАХОДНЕПАЛЕСКАЕ НАВУКОВА-КРАЯЗНАЎЧАЕ

ТАВРЫСТВА «ЗАГАРОДДЗЕ»

**В.Л. ВЯРЭНІЧ**

# ПАЛЕСКІ АРХІЎ

*Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы*

Пад навуковай рэдакцыяй Федора Клімчука,
Эльжбеты Смулковай і Анны Энгелькінг

Минск
Издатель А.Н. Вараксин
2009

**УДК 800.87=826**
**ББК 81-67 (2Беu)**
**В 99**

*Рэцэнзенты:*
*Г.А. Цыхун, доктар філалагічных навук, прафесар*
*В.А. Лабачэўская, кандыдат мастацтвазнаўства*

*У падрыхтоўцы матэрыялаў да друку прынялі ўдзел:*
*У.А. Кошчанка, І.І. Лучыц-Федарэц, Н. В. Драбудзька (Сівіцкая),*
*К.І. Камендава, А.А. Мацюх*

**В 99**

**В.Л. Вярэніч**. Палескі архіў. Пад навуковай рэдакцыяй Фёдара Клімчука, Эльжбеты Смулковай і Анны Энгелькінг. – Мінск: Выдавец ІП Вараксін, 2009. – 692 с.

**ISBN 978-985-6929-35-2**

**УДК 800.87=826**
**ББК 81-67 (2Беu)**

**ISBN 978-985-6929-35-2**



У афармленні вокладкі выкарыстаны фотаздымкі С. Бохніга 1929 года з архіва Інстытута мастацтваў Польскай акадэміі навук у Варшаве і Дз. Георгіеўскага са збору Музея Беларускага Палесся ў Пінску, выкананыя ў 1930-я гады, а таксама фотаздымкі 1950-х гадоў з сямейных архіваў.

Выданне ажыццёўлена на ахвяраванні сяброў Грамадскага аб’яднання «Заходнепалескае навукова-краязнаўчае таварыства «Загароддзе», Эльжбеты Смулковай і Анны Энгелькінг

***Навуковае выданне***

**В.Л. Вярэніч**

**ПАЛЕСКІ АРХІЎ**

Пад навуковай рэдакцыяй Фёдара Клімчука,
Эльжбеты Смулковай і Анны Энгелькінг

Падпісана да друку 12.10.2009 г. Фармат 60х84/8.
Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman. Ум.-друк.арк.- 80,4.
Улік.-выд.арк.- 41,5. Наклад 100 экз. Замова № 48.

Выдавец ІП Вараксін
Ліцэнзія № 02330/0131774 ад 06.03.2006 г.

Надрукавана на капіравальна-множнай тэхніцы ІП Вараксін

# З М Е С Т

## Спіс карт:

# 1. У С Т У П

## 1.1. В Я Ч А С Л А Ў   В Я Р Э Н І Ч   І   Я Г О   П А Л Е С К І   А Р Х І Ў



1.1.1. **В. Л. В я р э н і ч – паляшук і даследчык Палесся.**

Вячаслаў Лявонцьевіч Вярэніч (12.03.1924–27.08.1999) – вядомы беларускі вучоны-лінгвіст, кандыдат філалагічных навук (27.06.1975), замежны член Польскай акадэміі навукі і мастацтваў у Кракаве (1992), ганаровы член польскага мовазнаўчага таварыства, аўтар звыш 120 апублікаваных навуковых прац. У яго засталіся багатыя рукапісныя матэрыялы. Сярод іх – **Палескі архіў**. Як вучоны і грамадскі дзеяч ён вядомы ў першую чаргу як паланіст і спецыяліст па беларуска-польскіх моўных, культурных і іншых сувязях. Менш вядомы В.Л. Вярэніч, як даследчык Палесся, паколькі яго палескі матэрыял у асноўным застаўся неапублікаваны.

В.Л. Вярэніч нарадзіўся 12 сакавіка 1924 г. у вёсцы Рухча-2 Столінскага павета Палескага ваяводства (цяпер Столінскі раён Брэсцкай вобласці) у сялянскай сям'і. Бацькі – праваслаўныя, шляхецкага паходжання. Бацька – Вярэніч Лявонцій Якаўлевіч, нарадзіўся ў 1897 г. у той самай вёсцы Рухча-2, памёр 24 мая 1931 г. Продкі яго паходзілі з вёскі Стахаў (Столінскі раён). Вучыўся ў духоўнай семінарыі. Маці – Аляксандра Рыгораўна (дзявочае прозвішча – Шпакоўская) нарадзілася 14 кастрычніка 1900 г. у вёсцы Мясяцічы Пінскага павета (цяпер Пінскі раён), памёрла 8 сакавіка 1996 г.

Малодшыя сёстры В.Л. Вярэніча: Радцэвіч Неаніла (Ніна) Лявонцьеўна і Шаламіцкая Вольга Лявонцьеўна. Неаніла (Ніна) Лявонцьеўна нарадзілася 15 студзеня 1928 г. У 1950 г. закончыла Пінскую фельдшарска-акушэрскую школу. Затым да выхаду на пенсію працавала акушэркай у Плотніцкай участковай бальніцы. Вольга Лявонцьеўна нарадзілася 4 жніўня 1930 г. Закончыла ў Гомелі курсы закройшчыц. Працавала дамскім майстрам у швейнай майстэрні арцелі «Новае жыццё» ў г. Століне, а таксама настаўніцай працоўнага навучання (дамаводства) у Столінскай школе № 2.

Яшчэ ў даваенны час Вячаслаў Лявонцьевіч скончыў Рухчанскую пачатковую школу (паступіў у 1930 г.), затым Плотніцкую сямігадовую школу і Пінскую гімназію (1939 г.).

Пасля заканчэння шасцімесячных (студзень–жнівень 1940 г.) настаўніцкіх курсаў у г. Століне са жніўня 1940 г. па ліпень 1941 г. ён працаваў загадчыкам і настаўнікам аднакамплектнай пачатковай школы на хутары Магільна Столінскага раёна. У верасні–лістападзе 1941 г. (2,5 месяцы, да закрыцця школы) працаваў настаўнікам двухкамплектнай пачатковай школы ў вёсцы Варсынь Столінскага раёна. У час акупацыі працаваў на сельскай гаспадарцы. З красавіка 1943 г. падтрымліваў сувязі з партызанскімі атрадамі імя Аляксандра Неўскага, імя Варашылава і іншымі.

З восені 1944 г. па 1957 г. Вячаслаў Лявонцьевіч працаваў на Століншчыне загадчыкам і настаўнікам пачатковых школ (в.в. Кастрава, 1944–1945 гг., Рухча-1 – 1945–1946 гг.), настаўнікам Рухчанскай сямігадовай школы (1946–1949 гг.), дырэктарам Глінкаўскай сямігадовай школы (1949–1953 гг.), інспектарам Столінскага РАНА (1953–1955 гг.), загадчыкам Столінскага РАНА (1955–1957 гг.). За добрую працу на ніве адукацыі ў Столінскім раёне Міністэрства асветы БССР узнагародзіла яго знакам «Выдатнік народнай асветы».

Працуючы ў сістэме народнай асветы, В.Л. Вярэніч скончыў завочна: Пінскае педвучылішча (1944–1946 гг.), Пінскі настаўніцкі інстытут (аддзяленне рускай мовы і літаратуры, 1948–1952 гг.), Мінскі педагагічны інстытут імя А.М.Горкага (факультэт рускай мовы і літаратуры, 1953–1956 гг.).

В.Л. Вярэніч 28 снежня 1957 г. залічаны ў аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР і быў накіраваны ў Інстытут славяназнаўства АН СССР у Маскву, дзе спецыялізаваўся ў галіне параўнальнага славянскага мовазнаўства. Праходзіў тэрмін навучання ў аспірантуры ў Інстытуце славяназнаўства з 15.01.1958 па 28.12.1961 гг. У час навучання ў аспірантуры, знаходзячыся на канікулах, В.Л. Вярэніч рабіў экспедыцыйныя паездкі ў Палессе і іншыя мясціны. Яго кандыдацкая дысертацыя прысвечана даследаванню астраўной польскай гаворкі ў Лунінецкім раёне Брэсцкай вобласці і мовы яе носьбітаў, якія пасля вайны перасяліліся ў Ніжнюю Сілезію (Польшча). Дысертацыйная тэма – «Праблемы інтэрферэнцыі ў астраўных гаворках. На матэрыяле мазурскай гаворкі на Палессі і ў Ніжняй Сілезіі» (абараніў дысертацыю 27.06.1975 г.). З 28.12.1961 г. па 31.05.1992 г. працаваў у сектары агульнага і славянскага мовазнаўства (зараз Аддзел славістыкі і тэорыі мовы) Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР (з 28.12.1961 г. па 10.03.1972 г. – на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка, з 10.03.1972 г. па 30.04.1972г. – выконваючы абавязкі старшага навуковага супрацоўніка, з 30.04.1972 г. – на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка).

У 1963–1964 гг. В.Л. Вярэніч правёў дыялекталагічныя экспедыцыі – у Лунінецкі раён Брэсцкай вобласці і ў Ніжнюю Сілезію. У 1962 г. ён упершыню выступіў з дакладамі на навуковых канферэнцыях (у Вільнюсе і Ужгарадзе). У 1964 г. апублікаваў свой першы навуковы артыкул. Пасля гэтага працягвалася яго шматгранная навуковая работа, рэдактарская праца, неаднаразовыя навуковыя экспедыцыі (Беларусь, Літва, Латвія, Украіна, Казахстан, Польшча), шматлікія выступленні з дакладамі на навуковых канферэнцыях у розных гарадах СССР і за мяжой (Польшча, Італія). На працягу дзесяці гадоў ён чытаў лекцыі на польскай мове для студэнтаў і для грамадскасці на актуальныя палітычныя, сацыяльныя, навуковыя тэмы.

У 1967 г. В.Л. Вярэніч стварыў спецыяльную групу навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Узбекістана, якая займалася вывучэннем польскіх гаворак на тэрыторыі СССР. Пад яго кіраўніцтвам працяглы час даследаваліся польскія гаворкі на тэрыторыі ўсяго былога СССР. Вынікам такой працы з'явілася выхад у свет двух зборнікаў «Польские говоры в СССР; ч. 1, ч. 2» (Минск, 1973).

За вялікі ўклад у развіццё беларуска-польскіх узаемадачыненняў у 1992 г. В.Л. Вярэніч быў узнагароджаны ордэнам Заслугі Рэспублікі Польшча. У 1993 г. быў узнагароджаны кавалерскім крыжам Ордэна адраджэння Польшчы, а раней – залатой адзнакай Заслужанага дзеяча польскай культуры.

Кола навуковых інтарэсаў В.Л. Вярэніча было надзвычай шырокім: польскія гаворкі ў СССР; вынік іх кантактаў з гаворкамі іншых моў, у першую чаргу з беларускай мовай; анамастыка; сацыялінгвістыка; беларуская дыялекталогія; гісторыя польскай беларусістыкі; этымалогія; нацыянальная і этнічная самасвядомасць; гісторыя польскай беларусістыкі; дзеячы польскай культуры на Беларусі, ў Літве і на Украіне; шматбаковая праблематыка, звязаная з Палессем.

На Палессі Вячаслаў Лявонцьевіч Вярэніч нарадзіўся. Там яго карані. Там прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Там ён закончыў школу, гімназію, педвучылішча, настаўніцкі інстытут. Там ён з 1940 па 1957 гады працаваў у сістэме народнай асветы. Вячаславу Лявонцьевічу споўнілася 33 гады, калі Палессе перастала быць яго асноўным месцам жыхарства. Але ён працягваў наведваць Палессе ў час канікул, водпуску, экспедыцый, камандзіровак. Цудоўна ведаў гісторыю навуковага даследавання Палесся. 6.01.1997 г. на семінары заходнепалескага навукова-краязнаўчага таварыства «Загароддзе» ён прычытаў даклад (на заходнепалескай гаворцы) «Этнаграфічнае вывучэнне Палесся ў XIX–XX стст.»

В.Л. Вярэніч шырока карыстаўся мовамі: рускай, беларускай, польскай, заходнепалескай гаворкай, зрэдку ўкраінскай мовай і бережноўскай гаворкай (гаворка пераходная паміж заходнепалескімі і ўсходнепалескімі дыялектнымі адзінкамі). Адзін з аўтараў гэтага артыкула (Ф.Д. Клімчук) пазнаёміўся з В.Л. Вярэнічам у 1965 г. Пры шматлікіх кантактах за рэдкімі выключэннямі яны карысталіся заходнепалескай гаворкай (Ф.Д. Клімчук таксама яе носьбіт, нарадзіўся ў Драгічынскім раёне Брэсцкай вобласці).

В.Л. Вярэніч з'яўляўся адным з ініцыятараў стварэння Заходнепалескага навукова-краязнаўчага таварыства «Загароддзе» і адным з найбольш актыўных яго членаў (гл. «Загароддзе-1», Мінск, 1999. С. 97–99). Для перавыдаваемага па-беларуску альбома «Polesie» (Warszawa, 1996) пераклаў з польскай мовы на беларускую асноўную частку яго тэкста.

Памёр В.Л. Вярэніч 27.08.1999 г. Пахаваны ў Мінску.

Пачатак навуковага даследавання В.Л. Вярэнічам Палесся можна датаваць **1960-м** годам. Па складзенай ім спецыяльнай анамастычнай праграме (потым ён яе пашырыў) у 1960 г. ён абследаваў шэраг населеных пунктаў у Столінскім (вёскі Церабяжоў, Рэчыца, Фядоры, Нячатава) і Пінскім (вёскі Ласіцк, Парэ, Вострава, Ладараж, Жоўкіна) раёнах. Такім чынам, В.Л. Вярэніча можна лічыць адным з ініцыятараў комплекснага даследавання Палесся, якое разгарнулася ў пасляваенныя гады. Даследаванне Палесся экспедыцыйным шляхам працягвалася В.Л. Вярэнічам у наступныя дзесяцігоддзі (гл. ніжэй «Хроніку даследавання Палесся В.Л. Вярэнічам» і «В.Л. Вярэніч сярод ініцыятараў комплекснага даследавання Палесся ў сярэдзіне XX ст.»).

Пры зборы на Палессі анамастычнага матэрыялу В.Л.Вярэніч ставіў наступную мэту. Перш за ўсё па магчымасці высветліць сітуацыю, якая існавала ў населеным пункце ў час адмены прыгоннага права: колькасць участкаў зямлі, іх памеры, гаспадары, характар надзелаў. Калі не было магчымасці заглыбіцца ў такую даўніну, фіксаваліся звесткі больш позняга часу, але даўнія, наколькі маглі ўспомніць інфарматары. Далей: афіцыйныя прозвішчы гаспадароў, іх радавыя прозвішчы (па-палеску, – *пр'ызвыска)*. Далей: імены, прозвішчы і *пр'ызвыска* людзей, якія пасяліліся ў населеным пункце пазней. Далей: пералік назваў усіх (па-мясцоваму) урочышчаў на тэрыторыі населенага пункта і яго ўгоддзяў. Далей: разнастайныя падзеі, якія адбыліся ў населеным пункце. І шмат усялякага іншага, што удавалася запісаць у населеных пунктах ад інфарматараў, а таксама ў райвыканкамах, краязнаўчых музеях, сельсаветах.

В.Л. Вярэніч планаваў, як ён аб гэтым неаднаразова гаварыў, стварыць групу людзей (накшталт групы па вывучэнню польскіх гаворак на тэрыторыі СССР) і сумеснымі намаганнямі па спецыяльна распрацаванай праграме абследаваць усю гістарычную Піншчыну і яе наваколлі. Адгукнуліся на гэтую прапанову ўсяго некалькі чалавек Далей меркавалася апрацаваць гэта ў выглыдзе манаграфіі.

У кнігу В.Л. Вярэніч меркаваў уключыць шматлікія кароткія выпіскі з апублікаваных прац. Шмат такіх выпісак ён зрабіў. Датычацца яны галоўным чынам гісторыі асобных населеных пунктаў гістарычнай Піншчыны. Асобныя выпіскі ўяўляюць сабою характарыстыку Палесся ці Піншчыны. Захавалася, зробленая ім, бібліяграфія па Палессю.

В.Л. Вярэніч шмат надаваў увагі збору і даследаванню афіцыйных прозвішчаў па асобных населеных пунктах (пераважна Столінскі раён). Сабраў багаты матэрыял, які ў значнай меры ім апрацаваны і зроблены адпаведныя вывады. Па матэрыяле прозвішчаў Століншчыны былі падрыхтаваны і прачытаны даклады, зроблены выступленні на семінарах.

19 верасня 1997 г. на Міждысцыплінарным навуковым семінары па пытаннях даследавання Палесся, які праводзіўся ў Мінску ў рамках фота-этнаграфічнай выстаўкі «Палессе, якога не ведаем», ім быў прачытаны даклад «Прозвішчы жыхароў Століншчыны». Тэкст даклада не знойдзены. В.Л. Вярэніч ставіў мэту на будучае: стварыць карты, прысвечаныя асобным прозвішчам і карты абагульняючыя, інакш кажучы, стварыць атлас прозвішчаў раёна. На яго думку, атлас мог бы паказаць своеасаблівы ландшафтны малюнак прозвішчаў, выявіць, наколькі рэгіёны пашырэння комплексаў прозвішчаў адпавядаюць

дыялектнаму чляненню Століншчыны. На матэрыяле адзначаных распрацовак, як ён лічыў, можна было б высветліць розныя моманты мікра- і макраміграцыйных рухаў у мінулым на тэрыторыі раёна, змены тыпу гаворкі ў пэўных населеных пунктах.

Вячаслаў Вярэніч быў не толькі мовазнаўцам. Ён быў вучоным з велізарным вопытам і дасведчанасцю, якія набываліся дзесяцігоддзямі палявой працы. Вячаслаў Вярэніч – даследчык, знаўца, аматар і патрыёт Палесся. Яго дыялекталагічныя даследаванні не абмяжоўваліся зборам толькі моўнага матэрыялу. Навуковыя інтарэсы Вячаслава Вярэніча былі значна шырэйшымі. Вынікалі яны з таго, што велізарны моўны матэрыял цікавіў яго ў перспектыве шырокага гістарычна-культуралагічнага кантэксту.

Таму «Палескі архіў» Вячаслава Вярэніча ўяўляе цікавасць не толькі для мовазнаўцаў: яго можна чытаць як гістарычна-этнаграфічна-сацыялагічны даведнік аб Палессі. З'яўляецца ён і незаменнай крыніцай для ўсіх тых, хто цікавіцца гэтым рэгіёнам. «Палескі архіў» стварaўся на працягу 25 гадоў палескіх экспедыцый, у час якіх вучоны абследаваў каля 140 населеных пунктаў, пры гэтым, многія з іх неаднаразова. Гутарак з іх насельнікамі адбылося значна больш – архіў падае толькі асноўных інфарматараў прафесара Вярэніча каля 270 імёнаў.

Вячаслаў Вярэніч быў палешуком са Століншчыны. Такім чынам ён з'яўляўся даследчыкам-аўтахтонам. Для яго гэта было вялікім козырам – і перш за ўсё таму, што вясковыя суразмоўнікі прымалі яго за свайго. Ён меў дар лёгка наладжваць кантакты, але давер суразмоўнікаў здабываў не толькі такім шляхам. Галоўнай прычынай, дзякуючы якой жыхары Століншчыны і іншых рэгіёнаў дзяліліся з прафесарам Вярэнічам сваімі ведамі, успамінамі аб перажытым было тое, што ён адносіўся да іх з сапраўднай павагай і сімпатыяй і глыбока захапляўся іх традыцыйнай культурай і ведамі, якія сярод усяго іншага адлюстроўваліся і ў мове. Магчыма, што менавіта таму ў архіве Вячаслава Вярэніча – давяраючы матэрыялам сабраным у савецкі час, калі атмасфера запужанасці не з'яўлялася рэдкасцю – знаходзім толькі адзін выпадак пра недавер суразмоўнікаў.

Вячаслаў Вярэніч, як паляшук і як даследчык Палесся, таксама дасканала гэты край разумеў. Ён не толькі добра ведаў палескія гаворкі і культуру, але таксама меў багатую інфармацыю пра грамадскія і гістарычныя працэсы, якія адбываліся на Палессі. Для яго быў блізкі менталітэт жыхароў роднага краю. Усё гэта ён вельмі добра адчуваў і разумеў таму, што сам быў палешуком, і таму, што меў добрыя веды, валодаў перспектывай і самасвядомасцю даследчыка, што давала яму магчымасць адэкватна апісваць, інтэрпрэтаваць і параўноўваць Палессе з іншымі рэгіёнамі. Абодва гэтыя аспекты асобы Вячаслава Вярэніча – чалавека з «тутэйшай» тоеснасцю і назіральніка такой «тутэйшасці» – спалучыліся ў павазе да Палескага краю і замілавання ім.

Гаварыў пра сябе: «Павінен [...] падкрэсліць, што, сапраўды, па адчуванню, духоўнасці я з'яўляюся тутэйшым, палешуком. [...] Я з'яўляўся [...] адным з тых, хто ў тыя часы знаходзіўся ў адпаведным спісе, бо мае біяграфічныя рамкі ставілі мяне ў такое становішча [...], і гэта яшчэ было маім сродкам захаваць самога сябе – быў жа я чалавекам вельмі вострым і знаходзіўся ў заўсёдным канфлікце з уладамі. Аднак, незалежна ад гэтага, паколькі быў я чалавекам тутэйшым і працаваў на тэрыторыі свайго роднага Столінскага раёна, – меў нейкі дар падыходу да людзей, людзі мяне ведалі, былі перакананы ў маёй шчырасці, прынцыпіяльнай пазіцыі, былі перакананы, што ў тых сітуацыях, калі трэба было ахвяраваць уласным дабром, уласнымі выгадамі, я змагу стаць на баку праўды. І гэта праз шэраг гадоў зарыентавала ўлады на тое, што гэты тып, якога належала б пасадзіць або зняць з працы, [варта,] аднак, выкарыстоўваць, таму што ён мае аўтарытэт».

Аўтарытэтам – і не толькі ў справах Палесся – застаецца Вячаслаў Вярэніч да нашага часу. Рэдактары гэтага выдання не сумняваюцца, што публікацыя «Палескага архіва» ўмацуе яго пазіцыі.

**1.1.2. Працы В.Л. Вярэніча ў кантэксце найбольш буйнамаштабных даследаванняў Палесся у сярэдзіне і другой палове XX ст.** (Агляд праводзіцца ў храгналагічным парадку).

І. У пасляваенны час першымі комплекснае даследаванне Палесся распачалі археолагі пад кіраўніцтвам вядомага вучонага **Ю.У. Кухарэнкі**. Ю.У. Кухарэнка з **1951 г**. узначальвае Палескі атрад Славянскай, а затым Валынскай экспедыцыі Інстытута археалогіі АН СССР. Ім былі выдадзены наступныя абагульняючыя працы па старажытнейшай, старажытнай і сярэдневяковай гісторыі Палесся:

1) Памятники железного века на территории Полесья / Археология СССР. Свод археологических источников. Выпуск Д1-29. М., **1961**;

2) Средневековые памятники Полесья / Археология СССР. Свод археологических источников. Выпуск Е1-57. М., **1961**;

3) Первобытные памятники на территории Полесья / Археология СССР. Свод археологических источников. Выпуск Б1-18. М., **1962**;

4) Зарубинецкая культура / Археология СССР. Свод археологических источников. Выпуск Д1-19. М., **1964**;

5) Полесье и его место в процессе этногенеза славян // Полесье, М.: Наука, **1968**. С. 28–37.

II. У **1960 г**. **В.Л. Вярэніч** па спецыяльнай анамастычнай праграме абследаваў 9 населеных пунктаў у Пінскім і Столінскім раёнах Брэсцкай вобласці. Збор матэрыялаў на Палессі В.Л. Вярэніч працягваў да 1985 г. У матэрыялах яго Палескага архіва пераважна прадстаўлены анамастыка, лексіка і этнаграфія. Усяго В.Л.Вярэнічам і іншымі даследчыкамі, якія працавалі па яго праграме, на Палессі абследавана каля 140 населеных пунктаў. Апрацаваны Палескі архіў В.Л.Вярэніча разам з уступнымі артыкуламі і індэксам складае звыш 40 аркушаў. Пасля таго, як матэрылы Палескага слоўніка будуць апублікаваны, В.Л. Вярэніч «афіцыйна» зможа стаць у адзін рад з найбольш ініцыятыўнымі і буйнамаштабнымі даследчыкамі Палесся ў сярэдзіне і другой палавіне XX ст.

III. У **1962 г**. адбылася першая Палеская дыялекталагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам вядомага расійскага вучонага, праўнука Л.М. Талстога, акадэміка **М.І. Талстога**. Прынялі ўдзел вучоныя Расіі, Беларусі, Украіны. Вынікам экспедыцый 1962–1964 гг. з'явіліся зборнікі: «Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря». М.: Наука, 1968. 476 с. і «Полесье (Лингвистика. Археология. Топонимика)». М.: Наука, 1968. 304 с. У 1974 г. пачаўся другі этап вывучэння Палесся экспедыцыйным шляхам пад кіраўніцтвам М.І. Талстога. Даследавалася духоўная культура. Экспедыцыі працягваліся да 1985 г. На Беларусі даследаванне духоўнай культуры Палесся працягваюць беларускія вучоныя. Матэрыялы экспедыцый публікаваліся ў шматлікіх выданнях. Вельмі грунтоўна гэтыя матэрыялы прадстаўлены ў пяцітомным энцыклапедычным маскоўскім выданні «Славянские древности. Этнолингвистический словарь» пад рэдакцыяй М.І.Талстога. Чатыры тамы гэтага выдання апублікаваны (1995, 1999, 2004, 2009).

IV. У **1967 г**. распачаўся збор матэрыялу да «**Тураўскага слоўніка**». Слоўнік падрыхтаваны і апублікаваны ў 1982–1987 гг. [Тураўскі слоўнік, у пяці тамах. Мінск, т.т. 1 (1962), 2 (1982), 3 (1984), 4 (1985), 5 (1987).] Складальнікі: А.А.Крывіцкі, Г.А.Цыхун, І.Я. Яшкін. У слоўнік уключаны матэрыялы з 19 пунктаў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і 15 пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.

V. **М.В. Ніканчук** пачаў даследаваць гаворак Палесся ў 1962 г. Але буйнамаштабная праца над стварэннем дыялектнага лексічнага атласа цэнтральнай часткі Палесся распачата ім у **1970 г**. Створаны атлас. Публікаваўся ён у выглядзе матэрыялаў:

1. *М.В. Никончук*. Матеріали до лексичного атласу української мови (правобережне Полісся). Київ: Наукова думка, 1985;

2. *М.В. Никончук*. Сільськогосподарська лексика правобережного Полісся. Київ: Наукова думка, 1985;

3. *М.В. Никончук, О.М. Никончук*. Ендемічна лексика Житомирщини. Житомир, 1989;

4. *М.В. Никончук, О.М. Никончук*. Транспортна лексика правобережного Полісся в системі східнослов'янських мов. Київ: Наукова думка, 1990;

5. *М.В. Никончук, О.М. Никончук*. Будівельна лексика правобережного Полісся в лексико-семантичній системі східнослов'янських мов. Житомир, 1990.

Выдадзены ў 1994 г. атлас уключае толькі частку карт атласа рукапіснага. [*М.В.Никончук*. Лексичний атлас Правобережного Полісся. Київ–Житомир, 1994.] У сетку атласа М.В. Ніканчука ўваходзіць 465 пунктаў, з іх на тэрыторыі Украіны – 386 (з іх 267 пунктаў на тэрыторыі Жытомірскай вобласці), на тэрыторыі Беларусі – 79 пунктаў ( з іх на тэрыторыі Гомельскай вобласці – 64, на тэрыторыі Брэсцкай вобласці – 15 пунктаў).

VI. Палессе (беларускае, украінскае і расійскае) стала аб'ектам даследавання ў такіх буйнамаштабных нацыянальных і міжнародных працах, як «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак, у 5-ці тамах» (1993–1998), «Атлас української мови» (т. 1 – 1984; т. 2 – 1988), «Диалектологический атлас русского языка, в трех выпусках» (1986–1997), «Агульнаславянскі лінгвістычны атлас» (першыя выпускі апублікаваны ў 1988 г., выданне працягваецца), «Лінгвістычны атлас Еўропы» (першы выпуск апублікаваны ў 1983 г., выданне працягваецца). Паўночна-заходнія ўскраіны Палесся (сярэдняе Падляшша – Podlasie środkowe) увайшлі ў «Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny» (першы том апублікаваны ў 1980 г., выданне працягваецца).

**1.1.3. Х р о н і к а даследавання Палесся В.Л. Вярэнічам.**

**1960 г.**: Церабяжоў, Рэчыца, Фядоры, Нячатава Столінскага раёна, Ласіцк, Парэ, Востраў, Ладараж, Жоўкіна Пінскага раёна. Абследавана для В.Л. Вярэніча: Юзафін, Сушыцк Пінскага раёна, Гарадная Столінскага раёна (выканавўца – П.П. Літвіновіч).

**1962 г.**: Ракітнаўскі раён Ровенскай вобласці УССР (Ракітнае, Каменнае (Вайткевічы), Будкі Каменскія і інш.). Абследавана для В.Л.Вярэніча: Балажэвічы Мазырскага раёна (выканаўца невядомы).

**1965 г.**: Рубель, Харомск, Вяллё, Вікаравічы-1*, Вікаравічы-2*, Альманы, Альманская Кашара, Гарадная, Дзераўная, Калонія*, Лушчыца* Столінскага раёна, Востраў, Лапацін Пінскага раёна, Бастынь, Велута Лунінецкага раёна, Ліпск Ганцавіцкага раёна.

**1968 г.**: Бастынь Лунінецкага раёна.

**1960-я гады**: Абследавана для В.Л.Вярэніча: Верасніца Жыткавіцкага, Тонеж Лельчыцкага раёнаў (выканаўцы невядомыя).

**1970 г**: Аздамічы, Кароцічы, Талмачова, Цераблічы, Альгомель, Вялікае Малешава, Колкі Столінскага раёна.

**1971 г.**: Хотамель, Альпень, Велямічы, Старына, Мярлін, Рубрын, Турскае, Рамель, Мачуль, Струга, Лядзец, Гарадзец, Вялікія Арлы, Малыя Арлы, Вугалец, Альшаны, Сямігосцічы, Туры, Хорск, Храпунь, Лісовічы Столінскага раёна; наведаў г. Давыд-Гарадок.

**1972 г.**: Абследавана для В.Л.Вярэніча: Кустаўніца Мазырскага раёна (выканавўца – Т.А.Зімяніна), Міхалкі Мазырскага раёна (выканаўца – Ф.І.Сіўко), Брынёў Петрыкаўскага раёна (выканаўца – Т.А.Зімяніна), Дарашэвічы, Глінка, Серп, Паляжач-Гара, Піліпоны Петрыкаўскага раёна (выканаўца – Ф.І.Сіўко).

**1974 г.**: Жыткавічы, Кажановічы, Бярэжжа, Зарэчча, Кольна, Пасека, Млынок, Подаўж, Браніслаў, Лагвошчы, Беразіна, Людзяневічы, Загорбашша, Калінаўка, Бярэжцы, Рычоў, Хачэнь, Рыдча, Хільчыцы, Тураў Жыткавіцкага раёна, Мікашэвічы, Моршчынавічы, Пясчанікі, Запроссе Лунінецкага раёна.

**1975 г.**: Тураў*, Вароніна*, Верасніца*, Дварэц*, Запясочча*, Заяцелле*, Малешаў* Жыткавіцкага раёна.

**1976 г.**: Сіціцк, Бродча Столінскага раёна, Грыўкавічы, Тырвовічы, Біжаравічы, Барычавічы, Вуйвічы Пінскага раёна; наведаў г. Лунінец.

**1978 г.**: Калавуравічы, Паросцы, Асобавічы, Мясяцічы, Лазічы, Шаломічы, Полхава, Каўбы Пінскага раёна.

**1979 г.**: наведаў г. Лунінец.

**1980 г.**: Атвержычы, Манькавічы, Крушын, Юнішчы, Юнішчанскія Хутары, Беражное Столінскага раёна; Плешчыцы, Кнубава, Горнава, Сярнічкі, Марозавічы, *Крывое Сяло Пінскага раёна; Дубаўка, Мелясніца, Лоўча (Лобча), Палескі, Лунін Лунінецкага раёна; наведаў г.г. Столін і Лунінец.

**1981 г.**: Лемяшэвічы, Чорнава-1, Церабень, Болгары, Чорнава-2, Лапацін, Канюхі, Хлябы, Хрыстаболавічы, Тупчыцы, Качановічы, Кудрычы, Плошчава, Гальцы Пінскага раёна; Стахава, Камарнікі, Церабішча, Відзібарэц, Асаўцы, Відзібар Столінскага раёна, наведаў г.г. Пінск і Столін. Абследавана для В.Л.Вярэніча: Невель, Перахрэсце, Семяховічы Пінскага раёна, Гарынічы Зарэчненскага раёна Ровенскай вобласці УССР (выканаўца – С.А.Дубнавіцкі).

**1982 г.**: Лунін, Палескі, Лоўча (Лобча), Вулька-1, Дубаўка  Лунінецкага раёна.

**1983 г.**: Беражное Столінскага раёна.

**1985 г**.: Рухча-2, Аўсямірава Столінскага раёна.

*Заўвага: матэрыялы не знойдзены.

**1.1.4. Палескі архіў В.Л. Вярэніча.**

Матэрыялы Палескага архіва В.Л.Вярэніча наступнага характару. Пераважная іх большасць – гэта анамастыка. У абследаваных вёсках (і мястэчках) запісаны наступны анамастычны матэрыял: а) прозвішчы афіцыйныя; б) прозвішчы радавыя (*пр'ызвыска*); часта іх называюць мянушкамі, але гэта нельга лічыць  правільным;  в) імёны; г) назвы палёў, сенажацяў, пашаў, лясных угоддзяў, балотаў, рэк, рэчак, азёраў і іншых геаграфічных аб’ектаў. Даюцца мясцовыя назвы населеных пунктаў, назвы жыхароў асобных населеных пунктаў. Прыводзяцца агульныя звесткі пра абследуемую вёску, пра яе гісторыю. Зроблены выпіскі з апублікаваных прац.

Другая група матэрыялаў, прадстаўленых у архіве, – гэта лексіка, адказы на апытальнікі. Найбольш багата прадстаўлена гэта група па вёсцы Бастынь Лунінецкага і вёсцы Аздамічы Столінскага раёнаў.

Трэцяя група матэрыялаў – гэта апісанне на мясцовай гаворцы працэсу ганчарства ў мястэчку Гарадная Столінскага раёна і рэалізацыя выратбленага глінянага посуду на вялікіх прасторах Палесся і на яго сумежжы.

Нямала living рознага іншага этнаграфічнага матэрыялу.

Нарэшце, усялякія іншыя факты, якія В.Л.Вярэніч лічыў цікавымі і зафіксаваў іх.

Выдзелены таксама невялікія раздзелы. Да іх адносяцца: а) «Палескі слоўнік» і б) «Назвы хвароб».

Назвамі хвароб В.Л. Вярэніч зацікавіўся не выпадкова. Безумоўна, паўплывала тое, што яго сям’я «медыцынская». Жонка Вячаслава Лявонцьевіча, Галіна Іванаўна (нарадз. 20.11.1930 г.), – доктар медыцынскіх навук, педыятр. Сын Сяргей Вячаслававіч (нарадз. 28.08.1961 г.) – кандыдат медыцынскіх навук, неўролаг. Сын Вадзім Вячаслававіч (нарадз. 29.10.1963 г.) – урач,  закончыў Мінскі медыцынскі інстытут.

Палескі архіў В.Л. Вярэніча складаецца з шэрагу так званых «кампанентаў». Гэта блакноты, блакноцікі, сшыткі, картатэкі, картатэчкі, запісы на асобных лістах паперы. У самым пачатку працы над архівам зроблена іх інвентарызацыя – яны пранумараваны. Нумарацыя зроблена адвольна.

**№ 1 – блакнот**. а) Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Асаўцы, Відзібарэц, Камарнікі, Стахаў, Церабішча. б) Выпіскі, зробленыя ў Столінскім гарсавеце, Столінскім краязнаўчым музеі і Відзібарскім сельсавеце.

**№ 2 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці: Асобавічы, Барычавічы, Біжаравічы, Бродча, Вуйвічы, Грыўкавічы, Калавуравічы, Каўбы, Лазічы, Мясяцічы, Паросцы, Полхава, Тырвовічы, Шаломічы. б) Матэрыялы з в. Сіціцк Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. в) Рознае з Лунінецкага, Пінскага і Столінскага раёнаў.

**№ 3 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці: Болгары, Гальцы, Канюхі, Качановічы, Кудрычы, Лапацін, Лемяшэвічы, Плошчава, Тупчыцы, Хлябы, Хрысціболавічі, Церабень, Чорнава-1, Чорнава-2. Агульныя звесткі па Пінскаму раёну. Бібліяграфія.

**№ 4 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Аўсямірава, Велямічы, Рухча-2. Выпіскі з матэрыялаў Столінскага краязнаўчага музея.

**№ 5 – блакнот**. Матэрыялы з вёскі Невель Пінскага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 6 – блакнот**. Матэрыялы з вёскі Перахрэсце Пінскага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 7 – блакнот**. Матэрыялы з вёсак Семяховічы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці Беларусі і Гарынічы Зарэчненскага раёна Ровенскай вобласці Украіны.

**№ 8 – блакнот**. а) Матэрыялы з населеных пунктаў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці: Горнава, Кнубава, Марозавічы, Плешчыцы, Сярнічкі. б) Матэрыялы з населеных пунктаў Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці: Вулька-1, Лобча, Лунін, пасёлак Палескі.

**№ 9 – блакнот**. а) Матэрыялы з населеных пунктаў Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці: Беражцы, Беразіна, Браніслаў, Бярэжжа, Жыткавічы, Загарбашша, Кажановічы, Калінаўка, Кольна, Лагвошчы, Людзяневічы, Млынок, Пасека, Подаўж, Рыдча, Рычоў, Тураў, Хачэнь, Хільчыцы. б) Матэрыялы з населеных пунктаў Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці: Запросссе, Мікашэвічы, Моршчынавічы, Пясчанка. в) Розныя звесткі па Жыткавіцкаму і Лунінецкаму раёнах і па Палессю наогул.

**№ 10 – блакнот**. а) Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Беражное, Крушын, Манькавічы. б) Археалагічныя помнікі Столінскага раёна. в) Выпіскі, зробленыя ў Столінскім гарсавеце.

**№ 11 – блакнот**. а) Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Альшаны, Вуголец, Вялікія Арлы, Давыд-Гарадок, Лісовічы, Малыя Арлы, Сямігосцічы, Туры, Хорск, Храпунь. б) Агульныя звесткі пра Давыд-Гарадоцкую зону Столінскага раёна.

**№ 12 – блакнот**. Матэрыялы з вёскі Аздамічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 13 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Аздамічы, Альгомель, Вялікае Малешава, Кароцічы, Колкі, Талмачава, Цераблічы.

**№ 14 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў: Гарадная, Дзераўная (Столінскі раён), Лапацін (Пінскі раён), Ліпск (Ганцавіцкі раён).

**№ 15 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Альпень, Велямічы, Гарадзец, Лядзец, Мачуль, Мярлін, Рамель, Рубрын, Старына, Струга, Турское, Хатомель, Храпунь.

**№ 16 – блакнот**. Матэрыялы з населеных пунктаў: Альманская Кашара, Альманы, Вяллё, Гарадная, Харомск (Столінскі раён), Велута (Лунінецкі раён), Востраў (Пінскі раён).

**№ 17 – блакнот**. а) Матэрыялы з вёскі Бастынь Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. б) Матэрялы з Літвы.

**№ 18 – сшытак**. а) Матэрыялы з населеных пунктаў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці: Нячатава, Рэчыца, Фядоры, Церабяжоў. б) Матэрыялы з населеных пунктаў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці: Востраў, Жоўкіна, Ладараж, Ласіцк, Парэ.

**№ 19 – сшытак**. Матэрыялы з населеных пунктаў: Гарадная (Столінскі раён) і Юзафіны (Пінскі раён).

**№ 20 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Піліпоны Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 21 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Брынёў Петрыкаўскага раёна і вёскі Кустоўніца Мазырскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 22 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Міхалкі Мазырскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 23 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Глінкі Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 24 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Серп Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 25 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Паляжач-Гара Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 26–31 – блакноцікі**. Матэрыялы з вёскі Бастынь Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 32 – асобныя лісты**. Матэрыялы з населеных пунктаў Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці: Вулька-1, Дубаўка, Лобча, Лунін, пасёлак Палескі.

**№ 33 – картатэчка**. Матэрыялы з вёскі Верасніца Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 34 – асобныя лісты**. Бібліяграфія.

**№ 35 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Рубель Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 36 – блакнот**. а) Матэрыялы з Ракітнаўскага раёна Ровенскай вобласці Украіны. б) Матэрыялы з вёскі Замошша Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 37 – картатэчка**. Матэрыялы з вёскі Бастынь Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 38 – картатэка**. Назвы хвароб.

**№ 39–40 – картатэка**. Прозвішчы жыхароў Столінскага раёна.

**№ 41–44 – картатэка**. Палескі слоўнік.

**№ 45 – картатэка**. Матэрыялы з вёскі Балажэвічы Мазырскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 46 – ліст паперы**. Матэрыялы з вёскі Тонеж Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 47 – ліст паперы і некалькі картак**. Навы хвароб (спіс).

**№ 48 – лісты паперы і карткі**. Розныя матэрыялы з Піншчыны, Століншчыны, Заходняй Браншчыны.

**№ 49 – блакнот**. Выпіскі з літаратурных крыніц.

**№ 50 – лісты паперы, карткі**. Выпіскі.

**№ 51 – 12 лістоў паперы**. Матэрыялы з вёскі Гарадная Столінскага раёна Брэсцкай вобласці (ганчарства).

**№ 52–59 – блакноцікі**. Матэрыялы з вёскі Бастынь Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці.

**№ 60 – блакноцік**. Матэрыялы з вёскі Дарашэвічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці.

**№ 61 – 13 лістоў паперы**. Прозвішчы жыхароў Столінскага (Атвержычы, Манькавічы, Юнішчскія Хутары, Юнішчы ), Пінскага (Горнава, Кнубава, Плешчыцы, Сярнічкі ), Луніецкага (Вулька-1, Дубаўка, Лобча, Лунін, Мелясніца, пасёлак Палескі) раёнаў.

**№ 62 – картатэка (скрынка)**. Афіцыйныя прозвішчы жыхароў Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Прозвішчы раскладзены па алфавіту. Падлічана, калькі носьбітаў мае прозвішча ў цэлым па раёну і ў кожным асобным населеным пункце.

**1.1.5. Апрацоўка Палескага архіва В.Л. Вярэніча**.

1. Пачатак працы над архівам можна датаваць 27-м верасня 1999 г. Тады ў рамках Міжнароднай навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Палессе – скрыжаванне культур і часу», якая праходзіла ў Пінску 25–27 верасня 1999 г., была праведзена нарада, на якой абмяркоўвалася пытанне лёсу Палескага архіва В.Л. Вярэніча. Было вырашана апрацаваць архіў і падрыхтаваць яго да друку. Створаны калектыў, які павінен заняцца апрацоўкай архіва і падрыхтоўкай яго да друку. Склад калектыва: Э. Смулкова, А. Энгелькінг (Польшча), Ф.Д. Клімчук (Беларусь).

2. У час працы над архівам у Мінску і Варшаве шмат разоў праводзіліся нарады калектыву, які працаваў над архівам. Збіраўся або ўвесь калектыў поўнасцю (тры чалавекі), ябо яго частка (два чалавекі).

3. Абмеркаванне розных прыватных праблем, звязаных з апрацоўкай архіва, праводзілася шляхам перапіскі па электроннай пошце.

4. Інвентарызацыя архіва, раздзяленне яго на «кампаненты», нумарацыя «кампанентаў» (гл. § 4. Палескі архіў В.Л. Вярэніча). Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

5. Набор матэрыялаў на камп'ютэры. Кожны «кампанент» архіва набіраўся асобна. Выканаўца – Н.В. Драбудзька.

6. Вычытванне набранага матэрыялу і яго папярэдняе рэдагаванне. Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

7. Адказы на пытанні лексічных праграм. Тлумачэнне слоў і выразаў або пераклад іх на літаратурную мову (падаюцца ў квадратных дужках). Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

8. Апрацоўка адказаў на пытанні раздзелаў I, II, IV–XII, XV–XVI, XVIII, XXVII «Kwestionariusz[a] do badań słownictwa ludowego» (red. W. Doroszewski, zesz. I–IV, Wrocław, 1958), зафіксаваных у в. Бастынь Лунінецкага раёна. Выканаўцы – І.І. Лучыц-Федарэц і Ф.Д. Клімчук.

9. Кампаноўка набранага і вычытанага матэрыялу. Далейшае рэдагаванне. Асноўная частка матэрыялу кампанавалася па населеных пунктах (часам гэты матэрыял знаходзіўся ў розных блакнотах і інш.) і па раёнах. Некаторыя змены (перастаноўкі) рабіліся ў межах матэрыялу, які адносіўся да аднаго населенага пункта. У кожным асобным раёне матэрыял размяркоўваўся з улікам алфавіту назваў абследаваных населеных пунктаў. Пры гэтым адзначалася, да якой адміністрацыйнай адзінкі гэты пункт адносіцца. Адзначаўся таксама час збору матэрыялаў у адпаведным населеным пункце. Матэрыялы, якія адносіліся да рэгіёна ў цэлым, выдзяляліся асобна. Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

10. Рэдагаванне апрацаванага архіва; заўвагі, дапаўненні, змены. Выканаўцы – Э. Смулкова, А. Энгелькінг.

11. Улік заўваг. Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

12. Зверка ўсяго тэксту апрацаванага архіва з арыгіналам. Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

13. Чарговае чытанне ўсяго тэксту апрацаванага архіва; заўвагі. Выканаўцы – Э. Смулкова, А. Энгелькінг.

14. Унясенне правак з улікам заўваг Э. Смулковай і А. Энгелькінг. Выканаўца – Ф.Д. Клімчук. Асобныя віды работ выканала К.І. Камендава.

15. Уніфікацыя шрыфтоў. Выканаўца – У.А. Кошчанка.

16. Падрыхтоўка індэксу. Выканаўца – У.А. Кошчанка.

17. Падрыхтоўка Уступнага артыкула для гэтага выдання («Вячаслаў Вярэніч і яго Палескі архіў»). Артыкул рыхтаваўся па частках на працягу некалькіх год. Неаднаразова дапрацоўваўся і дапаўняўся. Выканаўцы: Ф.Д. Клімчук (асноўны выканаўца), Э. Смулкова, А. Энгелькінг.

18. Рэдагаванне тэкстаў на польскай мове і зверка з арыгіналам. Выканаўца – А. Энгелькінг.

19. Складанне карт, чарнавы варыянт. Выканаўца – Ф.Д. Клімчук.

20. Падрыхтоўка карт, электронная версія. Выканаўца – У.А. Кошчанка.

21. Падрыхтоўка да друку фрагментаў архіва ў навуковым часопісе «Гістарычная брама». Камп'ютэрная вёрстка, дызайн, тэхнічнае рэдагаванне тэкста. Выканаўца – А.А. Мацюх. Напрацоўкі А.А. Мацюха выкарыстаны ў гэтым выданні.

22. Кампаноўка фатаграфій для вокладкі і ўстаўкі. Выканаўца – В.А. Лабачэўская.

* * *

Члены рабочай групы па апрацоўцы архіва ўдзячны Польскаму інстытуту ў Мінску і Амерыканскаму савету навуковых таварystваў за садзейнічанне ў апрацоўцы архіва і падрыхтоўцы яго да друку.

Імі ж выказваецца падзяка за каштоўныя парады і кансультацыі Г.А. Цыхуну, М.П. Антропаву, В.А. Лабачэўскай, І.І. Лучыцу-Федарцу і іншым калегам.

Фёдар Клімчук
Эльжбета Смулкова
Анна Энгелькінг

## 1.2.Транскрыпцыя

Асноўная частка выдання – гэта дыялектныя матэрыялы. Запісаны яны транскрыпцыяй, у аснову якой пакладзена транскрыпцыя Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа.

| Літары транск-рыпцыі, значкі | Вымаўленне | | Літары транск-рыпцыі, значкі | Вымаўленне |
|---|---|---|---|---|
| a | [а] | | n | [н] |
| b | [б] | | ń | [нь] – мяккі палатальны |
| c | [ц] | | o | [о] |
| ć | [ць] – мяккі палатальны | | ô | [о] «закрыты» (з адценнем [у]) |
| č | [ч] | | ọ | [о] з адценнем [у] |
| d | [д] | | p | [п] |
| ʒ | [дз] | | r | [р] |
| ǯ | [дж] | | s | [с] |
| e | [э] пасля цвёрдых зычных; [е] пасля мяккіх зычных | | ś | [сь] – мяккі палатальны |
| ê | [е(э)] «закрыты» (з адценнем [і(ы)]) | | š | [ш] |
| ẹ | [е(э)] з адценнем [і(ы)] | | t | [т] |
| f | [ф] | | u | [у] |
| g | [г] – выбухны (ґ) | | u͡o | дыфтонг [у͡о] |
| h | [г] – фрыкатыўны ці фрыкатыўна-фарынгальны | | ü | умляут [і$^{ю}$], [ы$^{у}$] |
| x | [х] | | ŭ | [ў] |
| i | [і] | | v | [в] губна-зубны |
| и | гук «сярэдні» паміж [ы] і [і]; зычныя перад ім паўмяккія. (у запісах кірыліцай) | | w | [в] губна-губны |
| i͡e | дыфтонг [і͡е] | | y | [ы] |
| ĭ | [і] нескладовы | | ÿ | умляут [і$^{ю}$], [ы$^{у}$] (у запісах кірыліцай) |
| j | [й] (зычны палатальны) | | y͡e | дыфтонг [ы͡э] |
| k | [к] | | y͡o | дыфтонг [ы͡о] |
| l | [ль] (мяккі) | | z | [з] |
| ł | [л] (цвёрды) | | ź | [зь] – – мяккі палатальны |
| m | [м] | | ž | [ж] |
| | | | | |
| ['] | Націск; значок стаіць перад галосным уверсе | | | |
| [’] | Мяккасць папярэдняга зычнага; значок стаіць уверсе | | | |
| [˙] | Паўмяккасць папярэдняга зычнага; значок стаіць уверсе | | | |
| [ ̣ ] | Аглушэнне звонкага зычнага; значок стаіць пад літарай | | | |

| | |
|---|---|
| | У асобных выпадках гукі, якія па артыкуляцыйных і акустычных асаблівасцях спалучаюць рысы двух гукаў, абазначаюцца дзвюма літарамі, напр., $o^a$, $a^o$. |

**Дадатковыя заўвагі адносна вымаўлення**:

1. Мяккія палатальныя зычныя [ć], [ń], [ś], [ź] характэрызуюцца большай ступенню мяккасці ў параўнанні з адпаведнымі мяккімі палаталізаванымі зычнымі [c'], [n'], [s'], [z'].
2. Гукі [ê] і [ẹ] блізкія па гучанню. Галосны [ê] звычайна вымаўляецца ў націскным становішчы, галосны [ẹ] – пераважна не пад націскам.
3. Гукі [ô] і [ọ] блізкія па гучанню. Галосны [ô] звычайна вымаўляецца ў націскным становішчы, галосны [ọ] – пераважна не пад націскам.
4. Блізкія па гучанню гукі [ j] і [ĭ]. Гук [ j] вымаўляецца вельмі выразна, шумна, гук [ĭ] вымаўляецца намнога слабей, у патоку маўлення ён нярэдка амаль знікае.

**Зроблены замены**:

1. Літара [γ] паслядоўна заменена на [h]. Гэта фрыкатыўны або фарынгальна-фрыкатыўны зычны гук, ён блізкі да літаратурнага беларускага [г] або тоесны з ім. У матэрыялах В.Л. Вярэніча, запісаных лацінскай транскрыпцыяй, абсалютна пераважае [γ], часам сустракаецца [h].
2. Літара [φ] заменена на [f]. Ужыта яна ў матэрыялах В.Л. Вярэніча некалькі разоў.
3. Націск ['] паслядоўна пастаўлены перад галосным. У матэрыялах В.Л. Вярэніча часам націск абазначаўся іншым спосабам.
4. [ i̯] заменены на [ĭ] (па тэхнічных прычынах).
5. [u̯] заменены на [ŭ] (па тэхнічных прычынах).
6. Літары [е], [о] з «кропкамі» над літарай [ė, ȯ] заменены на [ẹ], [ọ] (па тэхнічных прычынах).

Архіў В.В. Вярэніча – гэта рабочыя, дакладней, палявыя запісы дыялектнага матэрыялу, зробленыя ім на працягу доўгага часу. Таму непазбежны рознага характару непаслядоўнасці або недакладнасці. Гэта датычыцца ў першую чаргу гукаў блізкіх па артыкуляцыйных і акустычных асаблівасцях. Да такіх гукаў, у прыватнасці, адносяцца: [ê] і [ẹ], [ô] і [ọ], [ j] і [ĭ], [ć] і [c'], [ń] і [n'], [ś] і [s'], [ź] і [z'], [v] і [w]. Часам В.Л. Вярэніч мог выпадкова паставіць замест аднаго з адзначаных гукаў другі гук, блізкі яму па гучанню.

Усялякія тлумачэнні, кароткія апісанні, дадатковыя звесткі, заўвагі падаюцца ў публікуемым фрагменце Палескага архіва В.Л. Вярэніча на беларускай, рускай, польскай мовах і адпаведна беларускім, рускім, польскім стандартнымі алфавітамі. Рукапісны палескі архіў Вячаслава Вярэніча – гэта палявыя матэрыялы, якія спецыяльна да друку не рыхтаваліся. Таму мы не можам выказваць прэтэнзій да правільнасці тых частак матэрыялаў, якія напісаны Вячаславам Вярэнічам літаратурнымі мовамі. Большая частка гэтых матэрыялаў Вячаслаў Вярэніч напісаў рускай мовай. Але гэта не стандартная руская літаратурная мова. Гэта варыянт размоўнай рускай мовы, якім (акрамя сваёй гаворкі) карыстаюцца многія мясцовыя жыхары паўднёвых раёнаў Брэсцкай вобласці. Трапляюцца ў рукапісе В.Л. Вярэніча асобныя фрагменты на беларускай літаратурнай мове.

Значная частка тэкстаў пададзена на польскай мове. Гэта звычайна шматлікія выпіскі з апублікаваных крыніц. Польская мова як сучасная, так і старадаўнія яе варыянты. Зверку выпісак В.Л. Вярэніча з арыгіналам апублікаваных польскіх прац зрабіла В. Энгелькінг.

Укладальнікі і рэдактары гэтага выдання зрабілі адпаведныя заўвагі рэмаркі, апісанні, тлумачэнні дыялектных слоў, напісаны артыкул пра В. Вярэніча і яго Палескі архіў. Мова гэтых частак і фрагментаў выдання – беларуская літаратурная.

## 1.3. Скарачэнні. Абрэвіятуры

### 1.3.1. Прынятыя скарачэнні

Ab. sg. – Ablativus singularis, czyli miejscownik (месны склон) liczby pojedynczej. W polskiej gramatyce dawniej często uzywano lacinskich nazw przypadków, i ewidentnie W.Wiarenicz też tak czasem robil.
dat. – давальны склон
f. – жаночы род
gen. – родны склон
inst. – творны склон
m. – мужчынскі род
n. – ніякі род
N, nom. – назоўны склон
pl. – множны лік
pl. t. – толькі ў форме множнага ліку
sg. – адзіночны лік
sg. t. – толькі ў форме адзіночнага ліку
адз. – адзіночны лік
анат. – анатамічнае
в. – вёска
В – вінавальны склон
д., дер. – деревня
Д – давальны склон
ж – жаночы род
займ. – займеннік
зборн. – зборнае
зв. – зваротная форма
им. – назоўны склон (именительный падеж)
ліч. – лічэбнік
м. – мужчынскі род
М – месны склон
мн. – множны лік
н. – ніякі род
Н – назоўны склон
н.п. – населеныя пункты
нов. – новае
польск. – польскае
прым. – прыметнік
Р – родны склон
руск. – рускае
рэдк. – рэдкае
с. – сяло (село)
стар. – устарэлае
субст. – субстантывацыя
Т – творны склон
х., хут. – хутар (хутор)
экспрэс. – экспрэсіўнае

### 1.3.2. З выпісак:

**Р.Гарашкевіч, Пін.-гіст.** – Roman Horoszkiewicz. Notatki historyczne o niektórych miejscowościach powiatu Pińskiego. Pińsk 1928.

**Р.Гарашкевіч, Пін.-трад.** – Roman Horoszkiewicz. Tradycje Ziemi Pińskiej. Warszawa 1928.

**Р.Гарашкевіч, Стол.-гіст.** – Roman Horoszkiewicz. Powiat stoliński (Notatki historyczne). Brześć nad Bugiem 1930.

**Слоўн. геагр. [SGKP]** – Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich red. B. Chlebowski, F. Sulimierski, W. Walewski, t. 1-15, Warszawa 1880-1902.

**A. Jel, Al. Jel** – Aleksander Jelski (w Słowniku geograficznym [гл. вышэй **Слоўн. геагр.**].

### 1.3.3. Расшыфроўка абрэвіятур

АТС – автоматическая телефонная станция
ВУС – военно-учетный стол (ваенна-уліковы стол)
КБО – комбинат бытового обслуживания
МУООС – межрайонное управление осушительных и оросительных систем
НСШ – неполная средняя школа
ОРС – Отдел рабочего обслуживания
ПМК – Передвижная механизированная колонна
РАНА – Раённы аддзел народнай адукацыі
РИК – Районный исполнительный комитет (райисполком)
РК КПБ – Районный комитет Коммунистической партии Белоруссии
РСК – ремонтно-строительный комбинат
СДК – сельский дом культуры
СМУ – специализированное монтажное управление; строительно-монтажное управление
СНК – Совет народных комиссаров (Савет народных камісараў)
СПТУ – строительное профессионально-техническое училище
СШ – средняя школа (сярэдняя школа)
УЖД – узкоколейная железная дорога (узкоколейка)
УЗК – узкоколейная железная дорога (узкоколейка)
ФАП – фельдшерско-акушерский пункт (фельчарска-акушэрскі пункт)
ЦГА БССР – Центральный государственный архив БССР
ЦГИА БССР – Центральный государственный исторический архив БССР
PCK – Polski Czerwony Krzyż
UŽD – узкоколейная железная дорога (узкоколейка)

З а ў в а г а: Некаторыя абрэвіятуры не расшыфраваныя.

# Палессе


Бельск-Падляскі
Камянец
Пружаны
Бяроза
Іваўэвічы
Ганцавічы
Шчара
Слуцак
Случ
Любань
Пціч
Слаўгарад
Бярэзіна
Жлобін
Дняпро
Чачэрск
Сож
Мглін
Сураж
Унеча
Расуха
Берасце
Кобрын
Драгічын
Ясельда
Іванава
Пінск
Лунінец
Жыткавічы
Петрыкаў
Калінкавічы
Рэчыца
Гомель
Маларыта
Столін
Дывыд-
Гарадок
Тураў
Мазыр
Любяшоў
Зарэчнае
Прыпяць
Камень-Кашырскі
Лельчыцы
Ельск
Хвойнікі
Лоеў
Горадня
Рэпкі
Дубровіца
Нароўля
Брагін
Любеч
Бярэзна
Чарнігаў
Мена
Любомль
Ковель
Уладзімірац
Сарны
Ракітнае
Алеўск
Оўруч
Дзясна
Заходні Буг
Гарынь
Случ
Прыпяць
Чарнобыль

# 2.1. ПІНСКІ РАЁН БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ




Асб - Асо́бавічы
Асн – Асне́жыцы
Ах - Ахо́ва
Бб – Бо́брык
Бг - Бо́лгары
Бж - Бі́жаравічы
Бз - Беразцы́
Брз - Бяро́завічы
Брч - Бары́чавічы
Вв - Ву́йвічы
ВДз - Вялі́кія Дзіко́вічы
Вл - Валі́шча
Влц - Вяля́цічы
Вск - Высо́кае
Вст - Во́страў
Вшн - Ве́шня
Вшч - Вішаві́чы
Гк - Грыўко́вічы
Гл - Гальцы́
Гн - Го́рнава

Грдз - Гарадзі́шча
Грн - Гары́нічы
Дб – Ду́бай
Жб - Жа́бчыцы
Жд - Жы́дча
Жк - Жо́ўкіна
Жт - Жы́тнавічы
Кб - Каўбы́
Кд - Ку́дрычы
Клв - Калаву́равічы
Кн - Канюхі́
Кнб - Кну́бава
Кп - Купя́цічы
Кч - Качано́вічы
Лд - Ла́дараж
Лз - Лазі́чы
Лм - Лемяшэ́вічы
Лп - Лапа́цін
Лс - Ла́сіцк
Лсч - Ло́січы

Лшч – Лы́шча
МДз - Малы́я Дзіко́вічы
Мз - Маро́завічы
Мк - Ме́сткавічы
Мл - Мало́ткавічы
Млдз - Маладзе́льчыцы
Мр - Маро́чна
Мрч – Ме́рчыцы
Мс - Мяся́цічы
Нб - Но́бель
Нв - Не́вель
НД – Но́вы Двор
НДв - Но́вы Дварэ́ц
Ом - О́мыт
ПЗг - Паго́ст Загаро́дскі
Пл - Пле́шычы
Плв - Пло́шчава
Плх - По́лхава
Пн - Пі́нкавічы
Пр - Парэ́

Прс - Паро́сцы
Прх - Перахрэ́сце
Прч – Парэ́чча
Пхн – Параxо́нск
Пч - По́чапава
См - Семяхо́вічы
Сн - Се́рнікі
Снч - Сярні́чкі
Ст - Ста́йкі
Ств – Ставо́к
Стч - Стыты́чава
Сш - Сушы́цк
Тп - Ту́пчыцы
Тр - Тырво́вічы
Хбл - Хрысці́балавічы
Хл - Хлябы́
Хн - Хо́йна
Цр - Це́рабень
Ч-1 - Чо́рнава-І
Ч-2 - Чо́рнава-ІІ

Шм - Шало́мічы
Юз - Юзафі́н

